№10(19)
2000г.
кастрычнік

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

*Да 210-годдзя надання Барысаву герба і 900-годдзя горада засталося менш за 20 месяцаў. Свята набліжаецца!*

## *Так выглядаў Барысаў на пачатку XXст. Якім ён сустрэне сваё 900-годдзе?*

*(Працяг тэмы чытайце на стар.2 «Даеш карнавал!» і ў наступных нумарах нашай газеты)*



Саборная плошча. Фота з архіва Барысаўскага краязнаўчага музея













## Аператыўнае затрыманне злачынцаў

З 15 верасня пры барысаўскім ГАУС створана група хуткага рэагавання. Яе асноўная мэта - раскрыццё па "гарачых слядах" цяжкіх злачынстваў.

Так 2 кастрычніка ў міліцыю звярнуўся мужчына, які паведаміў, што двое невядомых збілі яго. Неадкладна на месца здарэння была выклікана група хуткага рэагавання. Па прыкметах былі затрыманы злачынцы.

Барысаўскія міліцыянеры запазычылі досвед Салігорска. Але ў нас гэтая служба працуе больш эфектыўна. Бо калі ў Салігорску група раскрывае ў месяц 2 правапарушэнні, то ў нас з моманту ўзнікнення аператыўнікамі раскрыта дванаццаць злачынстваў.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Юбілейная дзяўчынка

У сярэдзіне кастрычніка ў Палацы культуры святкавалі нараджэнне 1000-га немаўляці, якое нарадзілася сёлета. Юбілейную дзяўчынку шчаслівыя бацькі назвалі Валерыяй. Акрамя дзіцяці ў цэнтры ўвагі ў той дзень былі маці і ўдовы, загінуўшых у Афганістане і мнагадзетныя маці.

Шчыра кажучы, з віншаваннямі трошкі і спазніліся - Валерыя нарадзілася амаль два месяцы таму. З пытаннем, колькі немаўлят нарадзілася пасля яе, мы звярнуліся да Аляксандра Сыраежкі, загадчыка аддзялення немаўлят.

- На сёння ў нас зарэгістравана 1253 наванароджаных, што на 15 больш, чым у мінулым годзе. Зараз мы назіраем уздым нараджальнасці, бо ў 1998 годзе немаўлят было яшчэ менш, чым у 1999 годзе. Магчыма людзі звыкліся з той эканамічнай сітуацыяй, што мы маем зараз. А можа, бацькі жадаюць мець дзіця, народжанае ў міленіум, - кажа ўрач.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Пажар месяца

Самы буйны пажар месяца здарыўся ў падыходзячы для гэтага дзень - пятніцу, 13-га.

А сёмай гадзіне вечара ў дзяжурнай частцы раздаўся званок. Усхваляваная жанчына паведаміла, што ў вёсцы Вяляцічы гарыць цагляная забудова, у якой мясцовыя жыхары захоўваюць сена і гадуюць жывёлаў.

Недзе праз дваццаць хвілін пажарныя сваімі вачамі ўбачылі пажар, які да таго часу ахапіў плошчу трохі меней за футбольнае поле. Тамтэйшыя жыхары тым часам паспяхова ўратоўвалі скаціну.

Асноўнай мэтай змагароў з агнём стала недапушчэнне распаўсюджвання полымя на бліжэйшыя будынкі. Праз нейкі час пажар быў лакалізаваны, а потым і патушаны канчаткова. Але "чырвоным пеўнем" было знішчана 24 хлявы і амаль паўсотні тон сена.

Нягледзячы на змрочную дату, у радзе прычын узгарання пажарныя называюць не жартачкі нячыстай сілы, а банальнае замыканне электраправодкі.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Прыйшоў ліст

На адрас рэдакцыі прыйшоў ліст, у якім разам са словамі падзякі наш чытач шкадаваў, што не можа набыць у гандлі некалькі папярэдніх нумароў нашай газеты.

Сапраўды, пасля выхаду наступнага нумара газета хутка знікае з кіёскаў Саюздруку і знайсці яе можна толькі ў бібліятэках.

На наш погляд, лепшае выйсце з гэтага становішча - падпіска на "Гоман Барысаўшчыны". Тым больш, што з кастрычніка падпісацца на яе можна з бясплатным штотыднёвым тэлевізійным дадаткам.

Нумары, якія не меў наш чытач, ён атрымаў. Рэдакцыя газеты "Гоман Барысаўшчыны" заўсёды рада дапамагчы сваім чытачам. Мы чакаем вашых лістоў, памятайце аб гэтым.

## *Падпішыцеся, і вы будзеце прыемна здзіўлены!*

*З лістапада 2000 года газета як і раней выходзіць раз на месяц на васьмі старонках.*
*Аднак падпісчыкі штотыднёва дадаткова атрымліваюць бясплатны (аплочваецца толькі дастаўка) каляровы праграмны дадатак (16 старонак фармата А4). Такія паслугі за такі нізкі кошт у Барысаве не можа прапанаваць ніхто!*
*Прычым падпісацца на нашу газету можна як з дадаткам, так і без яго.*

**Падпісны індэкс газеты**
**64184**

***Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на 1 месяц - **90** руб.,
***Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на 1 месяц - **190** руб.,
***Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на 1 месяц - **135** руб.,
***Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на 1 месяц - **251** руб.

## Нам давяраюць

Сёлета было праведзена сацыялагічнае даследаванне IREX/ProMedia. Яно датычылася колькасці чытачоў, спосабаў атрымання і даверу да выданняў, што распаўсюджваюцца на тэрыторыі Беларусі. Даследаваннем былі ахоплены большасць сродкаў масавай інфармацыі, што распаўсюджваюцца на тэрыторыі нашай краіны. Прычым аналіз праводзіўся як па дзяржаўных, гэтак і недзяржаўных газетах.

Прыемна адзначыць, што, згодна вынікаў даследавання, сярод барысаўскіх газет найбольшы рэйтынг даверу мае наша газета.

**Колькасць чытачоў тутэйшых газет, што цалкам або пераважна давяраюць ім**



## Міліцыя выдае кнігу. Пра сябе

У гарадскім аддзеле міліцыі падрыхтавана да выхаду ў свет унікальнае выданне. Аўтарам і складальнікам кнігі пад назвай "По велению долга" стаў намеснік начальніка ГАУС Юрый Аляксандравіч Лукашоў.

У кнізе матэрыял аб дзейнасці барысаўскай міліцыі з 1917 года да нашых дзён. Спатрэбілася каля двух гадоў упартай працы, каб выданне, прысвечанае гісторыі, міліцыі і людзям, якія аддалы сваёй справе, з'явілася на свет. Туды ўвайшлі архіўныя матэрыялы, каля 40 нарысаў і звыш 200 фотакартак.

Першыя пятнаццаць паасобнікаў будуць надрукаваны на грошы аўтара і супрацоўнікаў міліцыі. Плануецца выдаць яшчэ каля 400 паасобнікаў, але ўжо за сродкі жадаючых набыць гэтую кнігу.

Акрамя таго, што экземпляр кнігі будзе знаходзіцца ў Музеі і гарадской бібліятэцы, выданне плануецца захоўваць і ў электронным выглядзе.

- Галоўная мэта выдання - захоўванне памяці і прафесійнай пераемнасці, - лічыць аўтар.

Увогуле, аналагічнае выданне магчыма будзе падрыхтаваць толькі праз 15-20 гадоў.

*Служба інфармацыі "ГБ"*




## Расплата па рахунках

Апошнім часам усё большую частку ўласнага бюджэту гараджане расходуюць на аплату камунальных выплат. "Камунальшчыкі" абяцаюць адразу "абрубаць газ, ваду, ліфт і святло".

Але, нягледзячы на ўсё вышэйсказанае, кааператыў (больш за 100 кватэр) у старой частцы горада здолеў у поўным складзе амаль паўгода не плаціць "за выгоды" ніводнай капейкі.

Пачалося ўсё з таго, што ў красавіку мінулага года агульны сход кааператыва выказаў недавер старшыні і казначэю, шчырасць якіх была пастаўлена пад сумненне. Новыя людзі на гэтыя пасады выбраны не былі і "пакрыўджаны" казначэй, якому да таго ж больш не плацілі грошай, прыпыніла на неабмежаваны тэрмін падрыхтоўку "плацёжак". Жыхары дома перасталі атрымоўваць рахункі за выгоды і нават пры жаданні не маглі аплочваць ні газ, ні ваду.

Самае дзіўнае ў гэтай гісторыі тое, што 6 месяцаў ніхто нават не звярнуў увагі, што 100 (!) кватэр не плацяць грошы. Ніхто не адключаў святло, газ і каналізацыю.

Першы іск у суд падаў Цэнтр занятасці насельніцтва, якому кааператыў павінен быў пералічыць нейкія грошы. Толькі тады тэрмінова быў абраны новы казначэй.

У выніку жыхары атрымалі рахункі адразу за паўгода. Але ніхто з іх, разбэшчаны шасцімесячнай "халявай", па-ранейшаму не збіраецца іх аплочваць.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Барацьба за розумы і лёгкія

Напрыканцы кастрычніка ў Барысаве распачнецца акцыя "Too young today - не пачынай!", якая скіравана супраць курэння сярод моладзі.

Арганізатарам акцыі стане група жанчын, якія раней сумесна навучаліся па праграме "Эканамічная адукацыя" на базе сацыяльнай арганізацыі "Правінцыя".

Ідэя правесці гэткі марш пратэсту нарадзілася пасля даследаванняў, праведзеным маладзёжным журналістам клубам. У іх выніку высветлілася, што падлеткі пачынаюць смаліць ва ўзросце 12-16 гадоў. Цыгарэты яны беспярашкодна набываюць у крамах, нягледзячы на афіцыйную забарону прадаваць тытунёвыя вырабы няпоўнагадовым.

На працягу акцыі плануецца распаўсюдзіць у месцах, найбольш часта наведваемых моладдзю - школах, дыскатэках, прыпынках - наклейкі з лагатыпам кампаніі - "Too young today - не пачынай!" На прыканцы будзе праведзена дыскатэка, да ўдзелу ў якой будуць запрошаны хіп-хоп гурты горада, якія, як вядома, падтрымліваюць ідэю здаровага ладу жыцця.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Англічанка ў горадзе

Не так даўно ў Барысаў на пастаяннае месца жыхарства трапіла сапраўдная брытанка. Клічуць гэту англійскую лэдзі Француаза Феліцыя Flouer of My Heart. Яна - маленькая кацяня з дзівоснай блакітнай поўсцю, першы прадстаўнік пароды "брытанская віславуха скоціш-фолт".



Па волі лёсу ёй прыйдзецца жыць пад адным дахам з сабакам рызеншнаўцэрам. Але, як кажа іх гаспадыня Вікторыя, ужо зараз яны любяць адзін аднаго і не сварацца.

Каб больш поўна ахарактарызаваць Філю (так клічуць гэтае кацяня блізкія сябры) трэба дадаць, што яна зрэдку задзірае нос, раўнуе сабаку да гаспадыні, не любіць беларускую бульбу і млее па англійскай аўсянцы.

У будучым Француазу Філіцыю можна будзе ўбачыць на спецыялізаваных кашачых выставах.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## "Яны ведаюць праўду, але яны бяссільны"

Гарадскі Цэнтр здароўя вырашыў узняць праблему наркаманіі і алкагалізму ў Барысаве на міжнародным узроўні. Па запрашэнню галоўнага ўрача гэтай установы І. Хамячэнкі падзяліцца досведам прыехалі амерыканскія ўрачы Роб Герст і Роберт Юджэнкерс.

На працягу двух дзён яны расказвалі гарадскім псіхолагам аб уласнай арыгінальнай методзе, якую яны паспяхова прымяняюць на практыцы. Быў таксама праведзены аналіз псіхалогіі наркамана.

- Яны ведаюць праўду аб наркотыках, але наркаманы думаюць, што яны бяссільны супраць уласных жаданняў. Яны не маюць, яны могуць пры жаданні перамагчы, - гаворыць Роберт Юджэнкерс.

Спецыяльна для чытачоў "ГБ" Роб Герст згадзіўся параўнаць праблему наркаманії ў нас і ў Амерыцы.

- Існуе значная розніца ў культуры. Таму існуюць і значныя адрозненні ў прафілактыцы і лячэнні. Увогуле ў Амерыцы больш наркаманаў іалкаголікаў. Але больш і людзей, якія ўвогуле не маюць шкодных звычак, - кажа ён.

Для тых, хто ліча, што праблема наркаманіі для Барысава не вельмі значная: анкетаване праведзенае сярод вучняў школ, паказала, што наркотыкі ўжываў кожны дваццаты навучэнец. Усяго каля 4000 падлеткаў у Барысаве. Гэтая лічба, па словах І.Хамячэнкі, пацвярджаецца і аператыўнымі дадзенымі міліцыі.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Даеш карнавал !

Не сакрэт, што для большасці з нас наступаючае 900-годдзе Барысава не столькі выбітная гістарычная падзея, колькі доўгачаканае свята. Ці здолеем мы зрабіць з юбілейнага Дня горада шоў, стварыць перфоманс, ці ўсё будзе зведзена да шэрагаї абрыдлага сцэнарыя штогадовага Свята горада?

Сапраўды, каб зрабіць з 900-годдзя нешта яркае, неардынарнае, грандыёзнае, трэба знайсці прынцыповае адрозненне ад усяго, што мы бачылі раней. Пакуль мерапрыемства знаходзіцца на стадыі абмеркавання, кожны, хто мае жаданне дапамагчы больш, чым ляноты, можа прапанаваць свае элементы сцэнарыя і разлічваць, што аргкамітэт свята прыме іх да ўвагі. У рэшце рэшт, гэта наш горад і свята таксама кожнага з нас.

Напрыклад, вельмі хацелася б, каб "дэманстрацыя працоўных" саступіла месца святочнаму карнавалу. Уявіце сабе, што замест калектываў прадпрыемстваў на вуліцах з'явіліся б гістарычныя асобы Барысава ці казачныя героі, а маршы салдат змянілі б дзяўчыны з велізарнымі пер'ямі.

Альтэрнатывай урачыстай прамове аб дасягнутых за апошнія дзевяцьсот гадоў поспехах маглі б стаць галубы, выпушчаныя ў неба горада.

Юбілей таксама знамянуе сабой пэўны гістарычны этап у жыцці горада. Таму было б лагічна меанавіта да гэтай даты прысвяціць змену назваў вуліц, якія былі дадзены на працягу камуністычнага перыяду, а помнік правадыру пралетарыяту на Цэнтральнай плошчы змяніць на статую князя Барыса.

Было б цудоўна, каб да 900-годдзя былі завершаны работы па разбіўцы Парка адпачынку ля Бярэзіны, скончана будоўля басейна на вуліцы Чапаева, азеляніць новыя мікрараёны, якія зараз нагадваюць пустыню Гобі.

На тое, што будуць вынесены за межы горада шкодныя прадпрыемствы, альбо на з'яўленне тралейбуснай ці трамвайнай лініі можна спадзявацца толькі як на цуд. Можа стацца, што і больш бязвінныя прапановы застануцца пажаданнямі.

Найбольш папулярнай "адмазкай" у апошнія гады была адсутнасць грошай. Але як сведчыць вопыт-досвет, пры добрай арганізацыі свята павінна прыносіць прыбытак. У якасці прыкладу можна ўзгадаць "Кірмаш-2000". Як казаў адзін з вельмі вядомых дзеячаў культуры нашага горада, "верагодна свята будзе зведзена да правядзення ралі, выступу дэсантнікаў і канцэрта-прамовы толькі з-за таго, што падрыхтоўкай пачнуць займацца ў апошні момант".

Добрым прыкладам для нас могуць стаць апошнія алімпійскія гульні ў Сіднеі. Добра прадуманыя, яны грунтаваліся на тым, чаго не было нідзе і ніколі раней. Засталося два гады да 900-годдзя роднага горада, трэба пачынаць рыхтавацца ўжо сёння. Вы можаце даслаць свае прапановы да аргкамітэта на адрас рэдакцыі. А ў наступным нумары побач з вашымі мы надрукуем прапановы "Гомана Барысаўшчыны"

*С.Нялюбін*

## У Барысаве з'явіцца мюзікл

Спектаклем "Раслаўлёў або..." народнага тэатра "Відарыс" быў распачаты новы тэатральны сезон у Барысаве. Пастаноўка, створаная па матывах твораў Грыбаедава, сабрала аншлаг.

Увогуле, па словах рэжысёра тэатра У.Буйко, гэты сезон будзе адрозніваца "іншай формай і другім падыходам да спектакляў".

У тэатры плануецца стварыць мюзікл "Бег яшчаркі" па матывах твора А.Валодзіна. У пастаноўцы будзе задзейнічана так званая "маладая трупа", якая ў многім вызначыла поспех "Відарыса" у мінулым "зорным сезоне". Нагадаем, што тэатр са спектаклем "Прышэсце" стаў лаўрэатам абласнога фестывалю аматарскіх тэатраў "Бярэзінская рампа", а потым атрымаў Гран-пры на рэспубліканскім.

Адрозненнем гэтага сезона стане таксама вялікая колькасць гастроляў, з якімі "Відарыс" упершыню выступіць за межамі горада.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Дзень работнікаў культуры

Нядаўна, нягледзячы на ўсе цяжкасці, працаўнікі ўстановаў культуры Барысаўшчыны адзначылі сваё прафесійнае свята. На ім былі падведзены вынікі працы за год, лепшым супрацоўнікам уручаны граматы і каштоўныя падарункі. Усяго было ўзнагароджана 30 чалавек. Гэта як кіраўнікі творчых калектываў, педагогі, канцэртмайстары, так і бухгалтары, дворнік, вартаўнік, прыбіральшчыца і іншыя асобы, без удзелу якіх нармальна функцыянаваць установы культуры не маглі б.

Афіцыйная частка святкавання, што складалася з віншаванняў і ўзнагароджанняў, адбылася ў гарадскім Палацы культуры. Там жа, у фае, была арганізавана выстава, на якой былі прадстаўлены экспанаты з жыцця, работы і быту працаўнікоў культуры. Гэта сабачая будка з надпісам "Адзінокім прадастаўляецца інтэрнат", тры пары абутку (дакладней набор абцасаў) і кавалкаў скуры, якія пры дапамозе святога духу трымаюцца адзін за аднаго і ўтвараюць штосьці накшталт чаравікаў) з надпісам "абутак прадстаўнікоў культуры". Пад подпісам "Тэхнічныя сродкі, якія маюцца ў распараджэнні працаўнікоў культуры" знаходзіўся вулічны гучнагаварыльнік 1937 года выпуску і набор вінілавых пласцінак. Адным з самых цікавых экспанатаў быў гадзіннік без стрэлак з подпісам "Наш час праб'е!".

Віншавалі віноўнікаў урачыстасцяў дзіцячы ўзорны ансамбль скрыпачоў дзіцячай музычнай школы "Аніма", навучэнцы Барысаўскай харэаграфічнай школы, саліст Палаца культуры С.Мажэроўскі і калектыў гарадской бібліятэкі. Акрамя творчых калектываў, віншаванні выказалі дырэктар "Барысаўпраекта" В.Феактыстаў, прадстаўнік штаба арміі В.Васільеў.

У завяршэнні вечара дырэктар гарадскога Палаца культуры Н.Аўсяніцкая, якая вяла канцэрт, запрасіла на сцэну каманды бібліятэкараў, прадстаўнікоў школ і дамоў культуры згуляць у КВЗ.

Свята працаўнікоў культуры, безумоўна, удалося. Асабіста я ад яго атрымаў шмат задавальнення і зарад энергіі для новых творчых дасягненняў. Хацелася б спадзявацца на тое, што і "культурнікі" таксама зарадзіліся энергіяй для новых перамог на бліжэйшы год.

*М.Лазар*

# Барысаў у Інтэрнэце

*Развіваецца беларускі Інтэрнэт. Хай марудна, але верна. Блукаючы на яго бяскрайніх прасторах, я задаўся мэтай знайсці цікавыя старонкі, створаныя барысаўцамі. Вось што атрымалася...*

**http://beltelecom.minsk.by/~bcpp**
**Горад Барысаў, Рэспубліка Беларусь**

"В 1102 году Борис ходил на ятвяг и, победя их, возвратясь, поставил город во своё имя..."

з такіх слоў пачынаецца расказ пра гісторыю нашага старажытнага (амаль 900 год - паважаны ўзрост) горада, якія я адшукаў на гэтай старонцы, створанай Цэнтрам падтрымкі прадпрымальніцтва. Наогул, яна зроблена для дзелавых людзей і расказвае пра магчымасці Барысава ў сферы бізнесу і эканомікі. Аднак яе змест будзе цікавым і звычайным людзям.

**http://cacedu.unibel.by/Partner/GimnB/index.htm**
**Старонка гімназіі №1 г.Барысава**

Дэвізам старонкі з'яўляецца выказванне Д.І.Пісарава "Веды і толькі веды, робяць чалавека вольным і вялікім".

Старонка выканана з любоўю і густам. Назвы раздзелаў "Аб гімназіі", "Статыстыка", "Наш горад", "Нашы вучні" гавораць самі за сябе. Яны інфармацыйныя і цікавыя. Чаго толькі варта невялікае апавяданне аб нашым горадзе, упрыгожанае фотакарткамі з раздзела "Наш горад". А калі вам не спадабалася ці, наадварот, спадабалася што-небудзь на старонцы, то вы можаце пакінуць паведамленне ў "Гасцявой кнізе".

**По адрасе htt:1/nbg.adavw.ru** прымасціўся электронны варыянт "Новай Барысаўскай газеты". Калі ў вас не хапае грошай на падпіску, то з гэтай старонкі вы зможаце ўзяць усю інфармацыю пра падзеі, якія адбыліся ў апошні час у горадзе і наваколлі.

**http://erudit.boom.ru**
**Думай галавой**

Старонка поўнасцю прысвечана загадкам і галаваломкам. На момант майго наведвання на старонцы было 347 загадак, самых розных па тэматыцы: беларускія, старадаўнія, матэматычныя, дзіцячыя і проста прикольныя. Каму падалося, што гэта мала - хай паспрабуе ўспомніць хоць бы 20. Вядзецца рэйтынг эрудытаў - тых, хто разгадаў найбольш загадак. Нават рассылка навінаў ёсць (раю на яе падпісацца). Заснаваў гэты сайт барысавец Валера, вядомы таксама як Mad Lar.

Знайшлося ў Сусветным Павуціні месца фанатам барысаўскага футбольнага клуба. Я знайшоў ажно дзве старонкі: афіцыйную **(http://www.beltelecom.by/~fcbate)** і неафіцыйную **(http://www.fcbate.hobby.ru)**. Першая, на жаль, зараз закрыта на рэканструкцыю. Зато на другой можна знайсці многае - свежую інфармацыю аб выніках гульняў, каментарыі, расклад гульняў на сезон, фатаграфіі футбалістаў.

Вось і ўсё, што мне ўдалося адшукаць у заблытаных лабірынтах Interneta. Магчыма, віной таму недасканаласць пошукавых сістэм (не веру я, што іх так мала). Вядома, што Сусветнае Павуціне расце з хуткасцю 7 млн старонак у суткі (гэта не апіска).

***А.Шумскі***

*P.S. Калі каму вядомы адрасы старонак, створаных барысаўцамі, то шліце іх мне на e-mail Shurix (a) aport-ru. Зараней удзячны.*

# Усе прафесіі патрэбны - выбірай любую

Так казаў паэт, а як на самой справе? Змяняюцца часы, змяняюцца праблемы Калі раней беспрацоўе было візітнай карткай капіталістычнай сістэмы, то сёння яно прыйшло і да нас.

Па вуліцы 8-га Сакавіка месціцца ўстанова, якая і займаецца працаўладкаваннем насельніцтва. Мы размаўляем з супрацоўнікам "Цэнтра занятасці насельніцтва" Уладзімірам Валянцінавічам Сытых. Ад яго даведаўся, што беспрацоўе сапраўды існуе, але гэта зусім не азначае, што нельга знайсці працу. На гэты момант не проста ўладкавацца бухгалтару, эканамісту, юрысту. І гэта хутчэй за ўсе таму, што ніхто не падлічыў патрэбу ў такіх спецыялістах. Амаль кожная ВНУ, многія сярэднія спецыяльныя ўстановы працягваюць "каваць" такія кадры.

У той жа час прафесіі рабочых па-ранейшаму патрэбны. На ўлік у цэнтры можа стаць кожны малады чалавек, у якога ёсць пашпарт і няпоўная сярэдняя адукацыя. У Мінску, Калодзішчах і г.д. створана 13 баз, дзе можна атрымаць прафесію або перавучыцца. Грамадзяне, якія стаяць на ўліку, атрымліваюць дзяржаўную дапамогу ў памеры да 3-х тысяч рублёў, ім аплачваецца праезд на вучобу.

Яшчэ адна дэталь: тры дні ў месяц той, хто стаіць на ўліку, абавязаны адпрацаваць на грамадскіх работах. Гэта праца ў калгасах або на добраўпарадкаванні горада. Праца платная.

У цэнтры створаны ўсе умовы, каб той, хто мае патрэбу, мог знайсці працу ці атрымаць новую прафесію. Вучні старэйшых класаў запрашаюцца на спецыяльныя заняткі, дзе ім пакажуць відэафільмы, правядуць тэставанне, раскажуць, як правільна выбраць прафесію.

Я думаю, што праблема беспрацоўя ў многім надуманая. Да такой думкі прыйдзе кожны, хто пазнаёміцца з Барысаўскім цэнтрам працаўладкавання.

***М.Пучыла***

# Да дня маці

*Самыя прыгожыя, узнёслыя, пяшчотныя словы прысвечаны многімі паэтамі і пісьменнікамі ўсіх часоў і народаў Жанчыне, Маці. Трое маленькіх барысаўцаў, якія даслалі свае лісты ў рэдакцыю "ГБ" такім уменнем яшчэ не валодаюць. Але мы ў іх лістах знайшлі не менш каштоўнае: дзіцячую непасрэднасць, шчырасць. Таму са задавальненнем друкуем іх на сваіх старонках.*

### Мая мама

Я люблю сваю маму. Яна ў мяне самая прыгожая, разумная, пяшчотная. Я ганаруся ёю, бо акрамя яе аба мне ніхто не паклапоціцца.

Яна варыць вельмі смачныя стравы, а яе выпечку заўсёды хваляць госці і я.

Мама дапамагае мне рабіць урокі, правільна гаварыць, даглядаць за домам, коцікам.

Я люблю сваю маму і хачу ёй пажадаць усяго найлепшага: здароўя, усмешкі. Калі ў мамы дзень нараджэння, я віншую яе цёплымі і пяшчотнымі словамі, раблю падарункі. Мы з мамай часта гуляем, чытаем кнігі і газеты, глядзім тэлеперадачы, летам адпачываем у лесе і на рэчцы.

Мне заўсёды і ўсюды добра з мамай. Я хачу, каб ва ўсіх была такая мама.

***Лінчанка Юля***

### Любая бабуля

У мяне няма мамы, яна памерла, таму гадуе і выхоўвае мяне бабуля Ганна Паўлаўна Корзун. Яна многа гадоў узначальвала дзіцячы садок, з'яўляецца Заслужанай настаўніцай Рэспублікі Беларусь. Ужо даўно яна на пенсіі. Я яе вельмі люблю і шкадую, у мяне больш нікога няма. Разам мы вучым урокі, ходзім гуляць, ездзім у Мінск, чытаем кнігі. Я вельмі хачу, каб мая бабуля ніколі не хварэла і жыла доўгадоўга. Калі я буду афіцэрам, я буду вазіць яе на машыне і дараваць прыгожыя кветкі.

Дзякуй, любая бабуля, за ўсё добрае. Я ніколі не буду цябе засмучаць.

***Ільічоў Юра***

### Дзякуй табе, мама!

Маю маму завуць Ларыса Іванаўна, яна дамашняя гаспадыня. Я пяшчотна люблю сваю матулю. Яна заўсёды дапамагае мне рыхтаваць урокі. А якія булачкі і тарты выпякае яна! Я з мамай люблю ездзіць на дачу, дзе мы вырошчваем розную гародніну, садавіну, кветкі і ягады. Я бясконца рада, што мая мама любіць мяне і ўсю нашу сям'ю.

Дзякуй, мама, табе за ўсё!

***Шынкарова Насця***

# Не хварэй - не давядзецца лячыцца...

Ахова здароўя з цягам часу даводзіцца да ўсё большага заняпаду. Перш за ўсё, гэты заняпад абарочваецца вострай праблемай медыцынскіх кадраў. Нікчэмная зарабатная плата ўрачоў з'яўляецца вельмі нязначнымі аргументамі ў карысць таго, каб доктар заставаўся працаваць у бюджэтнай паліклініцы ці бальніцы.

Амаль немагчымым стала у апошні час забяспечваць гарадскія лячэбныя ўстановы ўрачамі з рэдкай, нямасавай спецыялізацыяй. Напрыклад, сёння ў Барысаве няма ўрача - алерголага, а патрэба ў ім узнікае вельмі часта. І самае крыўднае ў тым, што спецыялісты такога характару рыхтуюцца ў Г Т М А пастаянна, але калі і затрымліваюцца яны тут, то не надоўга.

На лепшае бюджэтнае фінансаванне, між тым, спадзявання няма. На гарадскім тэрытарыяльна-медыцынскім аб'яднанні пастаянна «вісяць» даўгі ў 200 - 250 млн рублёў па аплаце за цяпло, электраэнергію, лекавыя прэпараты, перавязачны матэрыял.

***А. Турко***

# Падстава для роздуму:
## у Барысаве на роднай мове дома размаўляе толькі адзін з трох жыхароў

Як памятаюць нашы чытачы, 16 лютага 1999 года на Беларусі праводзіўся перапіс насельніцтва. Яго асноўныя вынікі па Барысаву ўжо даўно абвешчаны. Сёння мы знаёмім вас з вынікамі адказаў жыхароў нашага горада па "моўных" пытаннях.

**У Барысаве роднай мовай лічаць:**




**Сярод дванаццаці найбольш пашыраных у Барысаве нацыянальнасцей роднай мовай лічаць нацыянальную:**




Па-за межамі нацыянальнай тых, хто лічыць беларускую мову роднай, найбольш сярод тутэйшых палякаў (59,0%), літоўцаў (28,7%), яўрэяў (19,0%), украінцаў (10,1%), рускіх (7,9%) і татараў (7,8%). Рускую мову лічаць роднай 84,3% тутэйшых немцаў, 75,4% яўрэяў, 64,6% татар, 52,2% украінцаў, 44,8% малдаван, 37,8% армян, 31,4% палякаў і г. д. Рускую мову лічаць роднай таксама 16,7% беларусаў.

**Дома барысаўцы размаўляюць па:**




Адказ на пытанне аб мове, на якой размаўляюць тутэйшыя жыхары дома, не адпавядае рэчаіснасці. Па-руску ў Барысаве размаўляе каля 15 - 20%. Астатняя частка тых, хто адказаў, што размаўляе па- руску, у паўсядзённым ужытку выкарыстоўвае так званую "трасянку". Менавіта яна рэальна з'яўляецца найбольш пашыранай у горадзе і аб'ядноўвае каля 60 - 70% жыхароў Барысава.

**На нацыянальнай мове дома размаўляюць:**




У цэлым на роднай мове ў Барысаве размаўляюць толькі 33,4% жыхароў. Наўрад гэта можна лічыць нармальным.

Найбольш прыхільнікаў размаўляць дома па-беларуску (акрамя беларусаў) сярод палякаў (18,6%), літоўцаў (11,7%), азербайджанцаў (4,5%), яўрэяў (3,7%), украінцаў (3,1%) і малдаван (3,1%). На рускай мове ў Барысаве дома размаўляюць 97,2% немцаў, 95,7% яўрэяў, 95,1% татар, 94,4% украінцаў, 88,5% малдаван, 80,1% палякаў і г. д. Сярод тых, хто назваў роднай мовай беларускую мову, па-руску (ці мо ўсё ж на "трасянцы"?) размаўляе 79,3% жыхароў Барысава.

***Падрыхтаваў М.Лазар***

*У гэтым годзе група маладых барысаўцаў прыняла пад Оршай прысягу: яны сталі паўнапраўнымі скаўтамі. Але далёка не ўсе ведаюць, хто яны такія.*





*Для трэніровак і вандровак прыдатны любы час года*

# Скаўты

Гэта не піянеры, як лічаць некаторыя. Аб'яднанне скаўтаў на Беларусі паявілася ў 1992 годзе, а барысаўская арганізацыя існуе са снежня мінулага года. Першыя скаўты (разведчыкі) паявіліся на пачатку 20 стагоддзя ў Англіі.

У аснову дзейнасці барысаўскіх скаўтаў пакладзены наступныя прынцыпы: выхаванне, школа, скаўтынг. У свой час Роберт Стэфанстэн, стваральнік скаўтызму, гаварыў: "Падлетку 11-18-гадовага ўзросту неабходны толькі тры рэчы: смех, ежа і гульні".

Аб'яднанні скаўтаў існуюць у 20 гарадах Беларусі. Барысаўскія скаўты атрымліваюць духоўнае выхаванне, іх вучаць абавязкам перад сабою, Богам, людзьмі. Яны вельмі сур'ёзна адносяцца да рэлігіі, цесна супрацоўнічаюць з касцёлам. Дарэчы, ксёндз Юзэф Пятушка да гэтага часу лічыць сябе скаўтам. Заняткі спортам, турызмам, адраджэнне роднай мовы, культуры, сімволікі - гэта не поўны пералік спраў барысаўскіх скаўтаў. Між сабою яны стасуюцца толькі на беларускай мове. Стаць скаўтам можна з 7 гадоў. З 7 да 11 гадоў скаўты маюць назву "ваўчок" (хлопцы) і "ваверка" (дзяўчаты). З 11 да 18 гадоў, зарабляючы зоркі (іх можа быць 3), падлеткі становіцца сапраўдным скаўтам. На кожную зорку трэба здаваць экзамен: умець адной запалкай распаліць вогнішча, умець арыентавацца на мясцовасці... Скаўтам забараняецца ўжываць алкаголь, курыць, ужываць нецэнзурныя словы.

У Еўропе кожны год праходзяцьджэмбары - скаўцкія фестывалі. Звычайна яны доўжацца 1-2 тыдні. На жаль, нічога падобнага ні ў Барысаве, ні ў Беларусі няма. Нашых падлеткаў запрашаюць у Іспанію, Францыю, Партугалію, другія краіны, але на паездку грошай няма. Затое праз месяц у Барысаў прыедуць прадстаўнікі Упраўлення скаўтаў Еўропы.

**А.Максіменка**





# Лістапад

У лістападзе гола ў садзе" - выразная пейзажная прыкмета апошняга восеньскага месяца. Зіма ўсё смялей заяўляе пра сябе, адцісняючы мокрую, упартую восень.

**1/19.** Іван, Клеапатра. У каталіцкім календары - Дзень Усіх Святых, калі адбываецца агульнае памінанне нябожчыкаў.

**2/20.** Арцём.

**3/21.** Ларывон, Феафіл, Якуб.

**4/22.** Святкаванне абраза Казанскай Божай Маці. "Да Казанскай не зіма, пасля Казанскай не восень". Спрыяльным гэты дзень быў для тых, хто браў шлюб: "Хто на Казанскую жаніхаецца, той не пакаецца".

**5/23.** Якуб, Ігнат, Алісей.

**6/24.** Феафіл, Апанас.

**7/25.** Макрыян, Анастас.

**8/26.** Дзмітры (Змітер). "Святы Змітры - людзі хітры, чаны парапь, піва вараць, сыноў жэняць, дачок алдаюць" - з-за набліжэння паста спяшаліся з вяселлямі. Па Змітраву дню глядзелі наперад: " Калі Змітра па снезе, то і Каляды па снезе, а вясна позняя".

**9/27.** Нестар, Андрэй, Капіталіна, Марк.

**10/28.** Параскева, Цярэнцій, Неаніла, Фот, Фядул, Сцяпан, Арсень, Дзмітры, Максім, Сцяпан. У дзень Параскевы Пятніцы, якая лічылася апякункай прадзіва, забаранялася прасці, ткаць, выносіць попел, мыць бялізну, араць. Многія жанчыны ўстрымліваліся ад прадзіва па пятніцах на працягу ўсяго года.

**11/29.** Настасся, Аўрам, Марыя, Клаўдзія, Ганна.

**12/30.** Зіновій, Марк, Настасся, Сцяпан, Алена, Арцём.

**13/31.** Стах, Спірыдон, Нікадзім, Маўра.

**14/1.** Кузьма, Дзям'ян.

**15/2.** Афоній, Маркіян.

**16/3.** Язэп, Георгій.

**17/4.** Нікандр, Меркурый.

**18/5.** Галакціён, Іона, Рыгор.

**19/6.** Павел, Варлам, Лука, Герман, Аляксандра, Клаўдзія, Ефрасіння, Матруна.

**20/7.** Апанас, Нікандр, Нікан, Хведар, Валерый, Яўген, Епіфан, Дарафей, Хвядот, Лазар, Кірыл.

**21/8.** Дзень Міхаіла прыходзіў " з халодным вятром". Між ім і Міколам зімовым, які надыходзіў амаль праз месяц, устанаўлівалі залежнасць: "Калі на Міхайлаў дзень цяплынь (мароз), то ў Міколаў адпусціць".

**22/9.** Матруна. Калі на Матруну шэрань на дрэвах - будуць маразы, туман - чакай адлігі.

**23/10.** Алімп, Радзівол, Арэст, Мілій, Кастусь.

**24/11.** Міна, Віктар, Вікенцій, Сцефаніда, Хведар, Максім, Сцяпан, Марцірый.

**25/12.** Іван Міласцівы. Ва ўгоду святому стараліся чым-небудзь падзяліцца, што маеш, пазычыць, падараваць. Калі на Івана Міласцівага дождж або снег, то аж но да Грамніц будуць адлігі.

**26/13.** Іван, Нічыпар, Герман, Манефа.

**27/14.** Святы Юлініян лічыцца збавіцелем ад бясплоднасці. На абразах ён намаляваны з дзіцем на руках у малітве перад абразом Божай Маці.

**28/15.** Гурый, Пaісій, Маркел, Дзмітры. З гэтага дня пачынаецца апошні ў годзе пост - калядны, або Піліпаўскі, які працягваецца да самых Каляд.

**29/16.** На Мацея надвор'е яшчэ вельмі няпэўнае, восень ніяк не саступае зіме, і гэта асаблівасць стану прыроды перададзена ў прымеце: "На Мацея дарога (зіма) пацее".

**30/17.** Рыгор, Нікан, Сяргей.

**Падрыхтавала І.Гракові̇ч**

# Чырвоная вішня

Напэўна таму, што чалавек наш звычайна падарожнічае толькі летам, менавіта ў гэтую пару напаўняе ён сваю жыццёвую скарбонку новымі адчуваннямі, ведамі, вопытам.

Гісторыя майго летняга падарожжа пачалася мінулай восенню. У маленькую заходнебеларускую вёсачку, дзе я нарадзілася, але ў апошні час, пасля таго, як не стала бацькоў, я наведвалася ўжо вельмі рэдка, прыйшоў ліст. Па ўсім было відаць, што блукаць яму давялося доўга, бо адказ быў напісаны лацінкаю, вельмі недакладна, і пачтарам на Брэстчыне прыйшлося нямала паламаць галаву, перад тым, як накіраваць паматы канверт у наш тутэйшы сельсавет. А паколькі ліст быў адрасаваны на імя майго пакойнага бацькі, то ў сельсавеце палічылі за лепшае перадаць яго ў школу. А ў маленькай сельскай школе, як вядома, заўсёды ёсць старэйшая настаўніца, якая памятае і любіць усіх былых сваіх вучняў, ведае, дзе яны, што з імі, як бы далёка ні закінуў іх лёс.

Так пісьмо знайшло мяне, каб усхваляваць, занепакоіць не на жарт душу. Пісала з Польшчы забытая даўно 88-гадовая сваячка. Некалі, яшчэ ў дзяцінстве, з заміраннем сэрца слухала я гісторыю вясковых кабет аб тым, як першая ў акрузе прыгажуня Наста, стрыечная сястра майго бацькі, у выніку неверагодных абставін яшчэ да першых саветаў і, вядома ж, да вайны выйшла замуж за багатага паўпанка з Беласточчыны і з'ехала туды з ім жыць.

Так яно і было - гэта я цвёрда ведала, бо мой бацька дзяліўся не аднойчы зусім рэальнымі жыццёвымі ўспамінамі пра Насту і яе бацькоў, якія рана памерлі, угатаваўшы дачцы сірочую долю. Але хто ж мог думаць, што тая самая Наста можа аб'явіцца праз столькі год?!

Тым не менш, бабуля Наста праз унучку пісала аб тым, што перад смерцю захацела хоць кавалачкам паперы дакрануцца да радзімы, называла імёны сваіх сяброўак - тых самых кабет, што расказвалі мне пра яе вясковы любоўны дэтэктыў. А звяртаючыся да майго бацькі, як да маладзейшага, вельмі ж прасіла яго прыехаць, каб "пабачыць ды супакоіцца ўжо, бо вельмі ж даўно жыву на свеце".

Я адказала на ліст, расказаўшы старой Насце аб тым, што яе тут помняць і любяць ўсе, пакуль жылі, але вось ехаць да яе ў госці, на жаль, няма ўжо каму. У наступным жа лісце з Беласточчыны было не проста ветлівае запрашэнне ў госці, а нешта непараўнальна большае, шчымлівае, што і прымусіла збірацца ў дарогу.

Пра тое, што Польшча - "не заграніца", жартуюць па традыцыі і, па-мойму, зусім дарэмна. Ужо знешні погляд вызначае - гэта іншая краіна. Дастаткова праехаць у аўтобусе, каб пераканацца, як актыўна будуецца і развіваецца сельская мясцовасць. Новыя дамы, новыя гаспадарчыя пабудовы...

Бабуля Наста жыве на радавым хутары свайго мужа, які памёр гадоў пятнаццаць таму. Новы дом, хутчэй падобны да маёнтка, паднялі за апошняе дзесяцігоддзе ўжо яе малодшая дачка з мужам. Дарэчы, яны адзіныя з вялікай сям'і і аселі на гаспадарцы, а астатнія яшчэ ў маладосці раз'ехаліся па гарадах. Сярэдні сын урачом стаў, працаваў доўгі час у Варшаве і жыў з сям'ёй у маленькай кватэры, а з'ехаў дзесяць год назад у Амерыку. Яшчэ адзін сын бабулі Насты мае малочную фабрыку, недзе пад Познаннем. Нядрэнна справы і ў яго ідуць, добрыя грошы мае, а малодшы яго сын вучыцца зараз у Канадзе.

Вельмі лёгка было размаўляць з бабуляй Настай. Яна ўсё сваё жыццё размаўляла толькі пабеларуску, і родная гаворка ліецца з яе вуснаў, як песня. Польскую мову яна, вядома ж, разумее, але навошта карыстацца ёю, калі і ў вёсцы, што раскінулася ў пяці кіламетрах ад хутара, старэйшыя людзі таксама гавораць па-беларуску, а моладзь няхай сабе як хоча. З сапраўднай беларускай памяркоўнасцю бабуля разважае аб тым, што няхай сабе й вучыліся яе дзеці і ўнукі па-польску, але ж дома, калі збіраюцца ў гурток каля маці і бабулі, усё роўна гавораць па-свойму. Праўда, гарадскія Насціны ўнукі, якія ветліва адгукнуліся на бабулін наказ прыехаць і пазнаёміца з далёкай сваячкай, усё ж лічаць сябе палякамі, а мову разумеюць таму, што на ёй гаворыць бабуля.

Насціна жыццё - гэта работа ў полі ад цямна да цямна. Жаніх ёй трапіўся сапраўды багаты. На сваім хутары ён меў механічную малацілку і конныя граблі. Астатнія ж работы ў полі даводзілася рабіць самім уручную. Гэта куды пазней ужо, як

(Працяг на стар.7)

# Кніга - лепшы падарунак

Так лічылі ў савецкія часы. А можа гэта быў толькі лозунг? Але ва ўсякім выпадку дастаць добрую кнігу досыць цяжка. Менавіта дастаць, а не купіць. Я маю на ўвазе кнігі айчыннай ці замежнай класікі. Такія кнігі нават не прадаваліся, а размяркоўваліся. І накіроўвалі гэты працэс самі партыйныя органы. Але па кошту набыць сабе такі падарунак мог кожны. Было нават модна ўпрыгожваць сваю мэблевую сценку карэньчыкамі новых кніг. Тады ніхто нават не сумняваўся, што мы самая чытальная нацыя ў свеце.

Часы прайшлі, і што ж змянілася? Па - ранейшаму ў Барысаве чатыры кнігарні. Дзве ў старой частцы горада, а дзве ў новай. Але ў чарзе за кнігай ужо ніхто не стаіць. Сярэдні кошт кнігі ад 1.500 да 20.000 рублёў. Людзям прыходзіцца ўжо выбіраць, што купіць у першую чаргу. У 90-я гады адбыўся наплыў кнігі нізкапробнай. Тут было ўсе: містыка, жахі, сэкс. Але сёння становішча змянілася. Такі тавар попытам не карыстаецца. Людзей цікавіць даведачная, энцыклапедычная літаратура, класіка.

Каб выжыць, кнігарні часта прадаюць не толькі кнігі. Прыкладам могуць служыць крамы на вуліцы Чапаева або былы раённы кніжны. У асноўным у крамы тавар паступае з Мінска. Для лепшай сувязі ў гандлі тры асноўныя кнігарні ўтварылі аб'яднанне "Барысаўкніга"

З'явіліся і новыя кніжныя крамы: на рынку стадыёна, на рынку "Спатканне", у Доме быту. Усе тры належаць прыватнай асобе, і тавар сюды прывозіцца ў большасці з Расіі.

А як адчувае сябе беларускамоўная прадукцыя?

Прыкладна так, як і ўсё, што не знаходзіць падтрымкі дзяржавы. Такой літаратуры стала менш. У асноўным яна паступае ў бібліятэкі. Быў момант на пачатку 90-ых, калі ішоў працэс адраджэння, беларуская літаратура карысталася попытам. Хаця і сёння экцыклапедычная літаратура, літаратура для абітурыентаў купляецца нядрэнна.

Зразумела адно: дзяржава, якая робіць стаўку на інтэлект, павінна больш удзяляць увагі кнізе, яе вытворчасці, яе продажу.

*М.Пучыла*

Рэштки аднаго з будынкаў на пачатку 90-х гадоў



# Знікае літаральна на вачах

Кайтанава зараз - нічым не адметная невялікая вёска паміж Зембінам і Мсціжом. Раней жа тут быў адметны маёнтак. У яго ўваходзілі акрамя панскага дома шматлікія гаспадарчыя будовы, дамы рабочых. Большасць з іх былі зроблены з дрэва або гліны. Адзін з будынкаў, які меў вялікія памеры, быў узведзены з выкарыстоўваннем каменняў і цэглы. Рэшткі сцен гэтага будынка яшчэ нядаўна ўражвалі сваёй веліччу. Але гэта ўжо ў мінулым...

Разбурэнне маёнтка пачалося яшчэ ў дваццатых гадах нашага стагоддзя падчас вайны з палякамі. Тады быў знішчаны панскі дом і разбураны самы вялікі будынак. Падчас апошняй вайны былі знішчаны астатнія пабудовы. Некалькі год таму былі амаль цалкам знішчаны рэшткі самага вялікага будынка. Але каму яны мяшалі? Зноў, як і шмат дзе, тут даваліся сутыкнуцца з бессэнсоўным вынішчэннем гістарычнай спадчыны.

Зараз на месцы маёнтка захаваліся толькі падмуркі, мураваныя склепы будынкаў і асобныя экзатычныя расліны. Месцамі праследжваецца планіроўка іх пасадкі. У хуткім часе, мабыць, ад былой велічы ў Кайтанава нічога не застанецца.

*А.Барэвіч*

Сучасны стан рэшткаў



# Пакровы

На двары кастрычнік. Закончана летняе і асенняе жніво, выбраны лён і выкапана бульба. Пасеяна азіміна. Можна бачыць плён гаспадарскага клопату. Нездарма ж людзі казалі: "У кастрычніку і хата з дрывамі, і гаспадар з лапцямі".

Але цяжка паверыць у тое, што працоўны чалавек, які першую палову года спраўляе цэлы шэраг свят і магічных абрадаў дзеля таго, каб заахвоціць прыроду і заручыцца яе падтрымкай, не меў у сваім календары вялікага заключнага свята, свята шчырай падзякі маці-зямлі. Пацверджанне таму можна знайсці ў царкоўным календары. Менавіта на 14 кастрычніка прыпадае вялікае хрысціянскае свята Пакровы \Пакроў\.

З гісторыі станаўлення хрысціянства вядома, што галоўныя царкоўныя святы напластаваліся на найбольш значныя язычніцкія: адначасова з Калядамі адзначаецца дзень нараджэння Хрыста, са святам вясны ў гонар Ярылы супадае Вялікдзень, Купалле - з Іванавым днём.

Святкуючы Пакровы, царква ўшаноўвае падзею, якая адбылася ў 910 годзе ва Ўлахернскім храме ў Канстанцінопалі. Перад калекам Андрэем і яго вучнем Епіпаніем паўстала Боская Маці і, узняўшы над імі белае покрыва, звярнулася да Бога з малітвай аб ўратаванні свету і збавенні людзей ад наканаваных лёсам няшчасцяў.

У народнай свядомасці Пакравы, як і шматлікія іншыя святы, мелі больш складаны характар. Комплекс уяўленняў ахоплівае як прыродны стан, так і сацыяльна - бытавыя адносіны.

Лічылася, што ў прыродзе ў гэты дзень адбываюцца важныя змены: Пакроў "замыкае" на зіму зямлю, якую вясной павінен будзе "адамкнуць" святы Юрый. Пасля гэтага ўжо ніхто не мог знайсці скарб, а той "хто сее на Пакрове, не будзе мець чаго даць карове". Уся хатняя жывёла пераводзілася на стойлавае ўтрыманне, таму гаспадар абавязкова павінен быў даць ёй сена.

На гэтае свята пачыналіся першыя замаразкі: "Святы Пакроў накрыў зямлю жоўтым лістом, маладым сняжком, ваду лёдам, пчалу мёдам".

У народнай метэаралогіі захаваліся прыкметы, па якіх можна было прадказаць надвор'е на будучыню:

"Калі на Пакроў не было снегу, не будзе яшчэ два тыдні", "Калі да Пакрова дня снег не пакрые зямлю, то і на Каляды не будзе снегу", або нават такое прадбачанне: "Якое надвор'е ў дзень Пакрова, такое будзе ўся зіму да вясны".

Звярталі ўвагу і на напрамак ветру. Калі ён дзьмуў з поўначы, меркавалі, што зіма будзе лютая, з завеямі, калі ж з поўдня - будзе мяккая, з адлігамі.

Фалькларыстаў і этнографаў здаўна здзіўляе ўпарадкаванасць і часавае размеркаванне традыцыйных свят і абрадаў. Заўважана, што на працягу ўсяго года існуе нейкая ураўнаважанасць паміж напружанай працай і святкаваннямі, напоўненымі магічнымі дзеяннямі і абрадамі, песнямі і танцамі.

Здавалася б, восенню жыццёвая (працоўна - святочная) дынаміка заціхае, збіваецца з веснавога і летняга рытму.

Аднак у сялянскім жыцці няма духоўнага перапынку. Таму ў кастрычніку на змену абрадам пераважна земляробчага накірнку прыходзяцца найцікавейшыя шматдзённыя вясельныя дзействы. Свята Пакроваў было для беларускіх дзяўчат святам надзеі на замужжа, на шчаслівую жаночую долю.

У этнаграфічнай літаратуры ёсць звесткі аб тым, што паміж сабой цесна звязаны два блізкія святы Іван Багаслоў (9 кастрычніка) і Пакровы.

На Івана Багаслова звычайна сваці тайна дамаўляліся з жаніхамі аб нявестах з такім разлікам, каб на Пакравы згуляць вяселле. Гэтыя клопаты і спадзяванні ўвабралі ў сябе прыказкі: "Іван Багуслаў дружкі разаслаў" і "К Пакрову дзеўка гатова". У дзень Пакрова дзяўчаты, якія жадалі стварыць сям'ю, ішлі ў царкву, ставілі перад іконай Маці Божай свечку і маліліся:

"Святы Пакроў, пакрыў ты і зямлю, і ваду, пакрый і мяне маладу".

Наканаванае шчасце пацвярджалася ў восеньскіх песнях падзякай:

"Святы Пакроў накрыў... рыбу лускай, дрэва карой, птаху пяром, дзеўку вянком".

*Паводле І.Крука*

# Час сапраўдных гаспадароў

Аб тым, што школа павінна рыхтаваць дзяцей да жыцця, ніхто спрачацца не будзе. Для вясковай жа школы гэта ў першую чаргу азначае навучыць юных сялян гаспадарыць на зямлі. Дзесяць спецыялізіраваных агратэхнічных класаў сфармавана з гэтай мэтай у школах раёна.

Менавіта восенню пара меркаваць аб тым, як папрацавалі і чаму навучыліся маладыя гаспадары. Свята ўраджаю, праведзенае нядаўна на базе старабарысаўскай сярэдняй школы, знакамітай на ўвесь раён сваімі агратэхнічнымі дасягненнямі, паказала вынікі крапатлівай працы вучнёўскіх і педагагічных калектываў на прышкольных участках. Самы багаты асартымент вырашчаных уласнымі рукамі садавіны і агародніны, бульбы прадставілі на свяце акрамя гаспадароў яшчэ Мсціжская, Карсакавіцкая, Крычынская, Майсееўшчынская і іншыя школы.

На школьным свяце ўраджаю прысутнічалі кіраўнікі раёна, прыдаючы яму значэнне першаступеннай важнасці. Было адзначана, што акрамя выхаваўчай ролі занятак дзяцей на прышкольных участках мае яшчэ і вялікае практычнае значэнне: харчаванне вучняў у школьных сталовых у многім залежыць ад вырашчанага імі ўраджаю.

*А.Турко*

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-16, 18 за 1996 - 2000 гг.)*

Што ўяўляў сабою Барысаў у XVIII стагоддзі? Згодна інвентара, які быў зроблены ў 1732 годзе Барысаў быў забудаваны выключна драўлянымі будынкамі. Насупраць замка быў гаспадарскі дом з дваром. Ён быў злучаны з замкам праз мост. Горад складаўся з рынка і дзевяці вуліц. Рынак быў забудаваны з чатырох бакоў трыццацю чатырма сядзібамі. Замкавая вуліца мела 38 сядзіб, Маставая - 14 сядзіб, Полацкая - 19 сядзіб, Палынская - 15 сядзіб, Аніскава - 14 сядзіб, Млыновая - 20 сядзіб, Аршанская - 34 сядзібы і манастырскія землі, Саская - 20 сядзіб і Забалоцкая - 2 сядзібы. На Замкавай вуліцы знаходзілася яўрэйская школа. Была ў горадзе уніяцкая царква святога Спаса, якая знаходзілася , хутчэй за ўсё, па вуліцы Полацкай. Былі ў горадзе і землі царквы святога Міхаіла. Аднак звесткі аб самой царкве адсутнічаюць. Пазней, у 1753 годзе ў Барысаве ўзгадваецца вуліца Савіч, якая знаходзілася недалёка ад Аршанскага тракта.

Па дакументах 1765 года ў Барысаве меўся мытны пункт. Мост праз Бярэзіну на той час не існаваў. Меўся перавоз, на якім яўрэі, жыхары Барысава, бралі па тынфу за кожнага каня. Далей, на старым рэчышчы, быў драўляны мост на палях. Пры выездзе з горада была плаціна і драўляны мост праз Сху.

Па стану на 1732 год статус мястэчка на Барысаўшчыне мелі: Барань, Лошніца, Неманіца, Зембін і, магчыма, асобныя іншыя населеныя пункты па-за межамі староства. У 1776 годзе ў сувязі з тым, што шмат якія гарады дзяржавы дастаткова фармальна карысталіся прывілеямі магдэбургскага права і яго выкарыстоўванне не прыводзіла да чаканых вынікаў, яно было скасавана ў стапіцідзесяці гарадах Княства, у тым ліку і ў Барысава і ўсіх тутэйшых мястэчкаў. Пакінута права самакіравання было толькі ў адзінаццаці гарадах дзяржавы. Аднак ужо ў 1783 годзе тагачасны гаспадар Зембіна Храптовіч дамогся вяртання Зембіну правоў мястэчка. З гэтага часу ён пачынае хутка расці. Тут развіваецца гандль, селяцца яўрэі.

Барысаў атрымаў поўнае магдэбургскае права і гарадскі герб прывілеем Станіслава Аўгуста ад 14 чэрвеня 1792 года. Па яму горад атрымліваў поўную самастойнасць у сваім кіраванні. Тут дазвалялася пабудаваць ратушу і абраць усімі жыхарамі гарадское кіраўніцтва - магістрат.

Да перыяду паміж дваццатым і дзевяностым трэцім гадамі XVIII стагоддзя адносіцца найбольш старое ўзгадванне такіх населеных пунктаў Барысаўшчыны, як Бараўляны, Бродаўка, Весялова, Жортай, Іканы, Крацэвічы, Міхеевічы, Млехава, Навасёлкі (як Лошніцкія, гэтак і Глівінскія), Пагадзіца, Палялюм, Пялік (Палік), Рагатка, Сморкі (Зорычы), Малое і Вялікае Стахава, Трасцяніца, Траянаўка, Хаўхоліца, Чарневічы, Шабынькі, Юшкевічы, Вялікае Янчына і асобных іншых. Акрамя таго ў гэты час упершыню асобна ўзгадваюцца Новыя і Старыя Негнавічы. Трошкі больш старажытныя пісьмовыя ўзгадванні - другой паловы XVII стагоддзя маюцца аб Зачысці, Кастрыцы, Неманіцы, Пупелічах (Крынічцы) і Ухалодзе.

Асноўнай тагачаснай тутэйшай гаспадаркі былі лясы і іх багацце. Асабліва славілася гэтым Барысаўская пушча, якая знаходзілася ў аднайменным старостве. Дарэчы, яна з'яўлялася асноўнай крыніцай выплаты шматлікіх запазычанасцяў Марцінам Агінскім. З пушчы ў вялікай колькасці пастаўляліся бярвенні, паташ і інш. Меліся ў тыя часы і шматлікія млыны (у Зембіне, напрыклад, у 1777 годзе іх было два), бровары (у Зембіне і іншых месцах) і шматлікія іншыя невялікія вытворчасці. Уздоўж асноўных шляхоў размяшчаліся карчмы (у Зембіне, Весялова, у пушчы каля Майсееўшчыны і ў іншых месцах).

Вандроўнікі, што рушылі праз наш край, часта спыняліся ў Барысаве. У XVIII стагоддзі праз наш горад праязджаў рускі сатырык Фанвізін (1777 год), англійскі гісторык Ульямс Кокс (да 1784 года), французы А.Фарсья дэ Піль і П.Буажэлен дэ Кердзю (1792 год) і іншыя асобы. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай і набліжэння мяжы непасрэдна да Барысаўшчыны асноўны шлях з горада на ўсход - да Воршы стаў зарастаць і прыходзіць у непрыдатны стан. Так, У.Кокс у сваіх заметках пісаў, што за Барысавам на Маскву шлях у асобных месцах так парос хмызняком, што ледзь заставалася месца для карэты. Каб праехаць, даводзілася распрагаць двух - трох коней. Іншы раз наогул даводзілася выходзіць з карэты і дапамагаць фурману прымаць з дарогі заваленыя дрэвы ці шукаць дарогу ў гушчары.

*(Працяг будзе)*

*М.Мацельскі*

# Не захварэць зоркавай хваробай

Барысаўскі тэатр існуе ўжо 120 гадоў. Ужо 40 гадоў ён носіць назву народнага. З 1991 года вядомы гледачам пад назвай "Відарыс". Адным з лепшых акцёраў тэатра па праву лічыцца Дзяніс Ганенка.

З 1985 года "Відарыс" ўзначальвае Уладзімір Алегавіч Буйко. Яго задача - падштурхнуць акцёраў у час рэпетыцый знайсці ў сабе нешта такое, што потым вырастае ў акцёры, робіцца часткаю ролі, часткаю самага актора. І вось гэта "нешта" актор потым аддае гледачам разам з часткаю сябе.

Аддаваць гледачам частку сваёй душы, дарыць ім радасць і дабро - вось што з'яўляецца галоўным у акторскай прафесіі Дзяніса Ганенкі. У тэатр далучыцца да мастацтва Дзяніса прывёў сябар. "Далучэнне" пачалося са спектакля "9-ты праведнік", у якім Дзяніс сыграў ролю стражніка. З таго часу Дзяніс шмат чаго дасягнуў. Спектакль "Прышэсце" па раману У.Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" з Дзянісам у галоўнай ролі ўжо заваяваў два Гран-пры: на абласным фестывалі "Бярэзінская рампа" і на рэспубліканскім фестывалі "Тэатральныя скрыжаванні" ў студзені гэтага года.

Для маладога актора сакрэты поспеху заключаюцца перш за ўсё ў жаданні працаваць, потым - прама прапарцыянальна - залежыць ад жадання працаваць партнёраў і, нарэшце, ад гледачоў. Тэатр для яго - як наркотык: Гэта і работа, і хобі, і школа жыцця. Дзяніс знаходзіць для сябе ў кожнай ролі як штосьці сваё, так нешта і не сваё. І вось гэта "не сваё" і ёсць школа. Нягледзячы на тое, што кожная роля па-свойму дарагая, самай любімай, самай ўдалай з'яўляецца роля Юрася Братчыка ў спектаклі "Прышэсце". Адна з актрыс тэатра Яна Буйко лічыць: "Дзяніс - адзіны актор, які народжаны, каб выконваць сур'ёзныя, складаныя мужчынскія ролі. Роля Юрася Братчыка і з'яўляецца такой.

Дзяніс лічыць, што мэта жыцця актора адрозніваецца ад мэты жыцця звычайнага чалавека. Для яго жыццёвая дарога і дарога мастацтва - гэта дзве розныя несумяшчальныя дарогі. Дарога мастацтва вядзе да славы і вядомасці, але для актора, на думку Дзяніса, галоўнае - не захварэць зоркавай хваробай.

*С.Бегіян*



*Дзяніс Ганенка на здымках - у цэнтры*

*На здымку справа - фрагмент спектакля «Расплаеў альбо...»*



*На здымку знізу - фрагмент спектакля «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»*

# У Лаўніцы цяпер - Дом фальклору

*На Барысаўшчыне нядаўна прайшоў трохдзённы семінар работнікаў культуры і раённых цэнтраў народнай творчасці Мінскай вобласці.*

Багатая культурнымі і гістарычнымі здабыткамі Барысаўшчына не выпадкова была выбрана для правядзення такога прыкметнага агульнаабласнога мерапрыемства. Цяперашнія справы, творчыя знаходкі тутэйшых работнікаў культуры, аказалася, даўно выклікалі інтарэс для іншых.

Семінар распачаў сваю работу з экскурсіі ўдзельнікаў на Брылёўскае поле - на якім перакрыжаваліся гістарычныя скрыжалі не толькі нашага краю, але і ўсяго славянскага свету.

Надалей паказальныя творчыя вечары з удзелам лепшых самадзейных калектываў і выканаўцаў у сельскіх клубах і дамах культуры межаваліся са знаёмствам гасцей з творчасцю знакамітых на Барысаўшчыне народных майстроў: перш за ўсё вышывальшчыцы М. Чарнавокай і майстра па шклу В. Шутко.

Прымеркавалі да семінара таксама правядзенне ў Лошніцкім ДК раённага конкурсу на званне «Міс - прыгажуня», у якім перамагла мясцовая дзяўчына Кацярына Чупіна. Вельмі ўразіла ўдзельнікаў семінара таксама выступленне дзіцячага фальклорнага ансамбля «Берагіня» з Мётчанскай СШ.

А для фіналу была «прыхавана» падзея вельмі неардынарная і адметная: цырымонія завяршэння рээрганізацыі і перайменавання Лаўніцкага сельскага клуба ў Дом фальклору.

Такім чынам нарадзілася першая ў рэспубліцы ўстанова сельскай культуры, вусных паданняў, а таксама матэрыяльных сведчанняў багатай духоўнай спадчыны цяперашніх лаўніцкіх жыхароў. А народны фальклорны калектыў «Лаўнічанка», які паспяхова выступае на арэнах Міншчыны ўжо 16-ы год,- гэта і ёсць найлепшае праяўленне цяперашняга духоўнага патэнцыялу вяскоўцаў.

*А.Турко*

# Чырвоная вішня

*(Заканчэнне, пачатак на стар. 4)*

пастарэлі, купілі і трактар і грузавік. Наста ж, каб не адставаць ад мужа, навучылася вадзіць трактар, араць і сеяць на ім. Правоў, праўда, не мела, з-за чаго даводзілася даволі часта плаціць штрафы паліцыянтам.

Поле, з якога жывеш, уласнымі рукамі перабраць трэба, - лічыць бабуля. Вось і яе Агата з Вацікам цяпер хоць і тэхнікі повен двор маюць рознай, а як прыйдзе лета, - ні гадзінкі спачынку ім не выпадае. Так сядзеўку вядзецца - на зямлі працаваць цяжка, але надзейна. Адпрацавала ж Наста вельмі шчыра, а таму і старасць мае спакойную. Дзеці, унукі і праўнукі, дзякаваць Богу, у дастатку, сама ў нястачы не гібела, дык няма чаго і на лёс наракаць.

Нягледзячы на свой узрост, мая сваячка мае свежую памяць. Вельмі ж распытвалася ў мяне пра лёс хутароў на бацькаўшчыне, якія некалі былі даволі багатымі. Асабліва запомніўся ёй адзін - з празрыстай сажалкай на загуменні і ветлівай гаспадыняй - ружовашчокай пані Вайцяхоўскай.

Доўга гасціць у Польшчы не давялося, бо клікалі дамашнія справы. Але бабулін унук усё ж паказаў мне Варшаву, звадзіў на экскурсію ў офіс філіяла амерыканскай камп'ютэрнай фірмы, дзе ён працуе. А бабуля паспела расказаць мне аб тым, што маладыя ўладальнікі суседняга хутара прадалі зямлю прадпрымальнаму немцу, які да сельскай гаспадаркі не надта ахочы, але разгарнуў ужо невялікі завод па вытворчасці сельскагаспадарчай і дарожнай тэхнікі. Многія мясцовыя жыхары атрымалі там работу, а некаторыя вярнуліся ў родныя мясціны з горада.

Пад час развітальнай вячэры я сказала бабулі Насце аб тым, што нашы жанчыны ўспаміналі часта, якой пявунняй яна была ў юнацтве. Старэнькая сціпласцю, змахнула слязу і зацягнула дрыготкім, але надзіва ладным голасам песню нашых мясцін:

*Чырвоная вішня*
*З-пад кораня выйшла*
*Ой, не аддай мяне, мама,*
*Дзе я не прывыкла...*

"І чаму ж вы заспявалі такую тужлівую песню, цётухна? - спыталася я, - Ваша жыццё так добра зладзілася, многае ў ім збылося..."

"Ды як тут і сказаць, дзіцятка, жыццё - яно туга... і ў ім заўсёды нешта не збылося", - адказала старая і на момант патухлі іскрынкі ў яе вачах.

...Я так і не расказала бабулі Насце ўсёй праўды пра жыццё яе тутэйшых землякоў. Прамаўчала аб тым, што хутар Вайцяхоўшчына, як і многія іншыя, занапаў, адышоўшы пад калгасы, і я ўжо помню толькі старую хату на водшыбе, дзе жыла старая інтэлігентная каталічка, якую вяскоўцы без ценю іроніі звалі не інакш як пані Вайцяхоўская.

Не гаварыла, як ёсць, і пра гароты маіх бацькоў, якія не менш, чым Наста працавалі на калгасных палях. Аднак жа, калі прыйшоў ракавы час, не было ў іх спакою на душы і ўпэўненасці за будучыню дзяцей, ды і ўласнае жыццё ўспаміналася, як бясконцае змаганне з бядотай.

Ды што тут казаць: жыццё - яно туга, і нічога, што павінна было, у ім не збылося...

*А.Турко*



# Самае глыбокае возера на Беларусі

*Газета "Гоман Барысаўшчыны працягвае цыкл публікацый, якія прысвечаны найбольш адметным месцам Беларусі. Сёння расповед пойдзе пра самае глыбокае возера ў нашай дзяржаве.*

Самым глыбокім на Беларусі з'яўляецца возера Доўгае. Знаходзіцца яно ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці ў трыццаці кіламетрах ад раённага цэнтра недалёка ад шашы Вільня - Полацак. Возера мае даўжыню 6 кіламетраў, шырыню да 700 метраў. Максімальная глыбіня - 53,7 метра. У дадатак да таго - схілы ля берага возера месцамі дасягаюць 30 метраў.

Летам праграваецца, а зімой астывае толькі верхні слой вады. Ніжэй дваццаці метраў тэмпература вады ўвесь год аднолькавая і складае 5 - 6 градусаў.

Возера амаль не закранута дзейнасцю чалавека, мае вельмі чыстую і празрыстую ваду. Тут маецца багаты жывёльны свет, водзяцца бабры. Асобныя з тамтэйшых відаў фаўны занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі.

Возера Доўгае знаходзіцца ўбаку ад найбольш цікавых турысцкіх аб'ектаў. Яго агляд мэтазгодна сумяшчаць з вандроўкай па цэнтральных і заходніх раёнах Віцебскай вобласці. У цэнтральных раёнах вас чакаюць Ушацкія і іншыя азёры з маляўнічай прыродай і ўнікальнымі помнікамі часоў паганства. У заходніх раёнах вам сустрэнуцца невялікія гарады Глыбокае, Паставы, шматлікія вёскі і мястэчкі з непаўторнай архітэктурай, старадаўнімі цэрквамі і касцёламі.

*А.Гурскі*

## У тройцы прызёраў

Пасля 21 тура БАТЭ, перамогшы Нёман на сваім полі 3:0, заняў трэцяе месца і ўтрымлівае яго па сённяшні час. Храналогія матчаў з сярэдзіны верасня па сярэдзіну кастрычніка наступная:

Лакаматыў 96 - БАТЭ 0:0
Батэ - Камунальшчык 6:0
Славія - БАТЭ 2:0
БАТЭ - Гомель 2:0
Нафтан - БАТЭ 0:7

Можна зрабіць высноцу, што каманда атрымлівае перамогі над тымі праціўнікамі, хто аб'ектыўна слабей БАТЭ. Выключэнне - нічыя 0:0 з традыцыйна нязручным Лакаматывам 96.

Пройгрыш Славіі ў гасцях можа быць растлумачаны тым, што каманда з Мазыра на дадзены час знаходзіцца ў добрым стане.

Трэцяе месца БАТЭ ў гэтым сезоне будзе не самым горшым вынікам. Але не выключана магчымасць, што каманда пазмагаецца за другое месца.

*А.Чарнуха*

## Поспехі "Гайны"

Пасля невялікага крызісу, які меў месца ў каманды "Гайна" ў сярэдзіне першынства Менскай вобласці, каманда зноў стала ўпэўнена набіраць ачкі.

За першыя два асенніх месяцы каманда правяла шэраг гульняў. Перамагла "Вілейку" з лікам 5:0 у гасцях і дома "Любань". "Зоркі" з Мар'інай Горкі зусім не прыехалі ў Лошніцу і ім было залічана тэхнічнае паражэнне. Затым быў пераможан "Слуцак" (1:0). І ў рэшце рэшт у апошняй гульні "Гайна" перамагла "Аўтазаводца" з Жодзіна (4:0).

Акрамя таго каманда з Барысаўскага раёна выйграла кубак Беларусі сярод аматараў. У фінале, які праходзіў у Нясвіжы, была атрымана перамога над камандай "Меркурый" (2:0).

*А.Чарнуха*

## Прыродная лякарня

Самы час збіраць конскі каштан, плады якога ў кастрычніку- лістападзе назапашваюць найвялікшую колькасць карысных рэчываў. У лекавых мэтах выкарыстоўваюцца не толькі плады, але і кара дрэва, кветкі, якія збіраюць па вясне. Кару таксама лепей збіраць вясною, знімаючы яе з галін пасля падрэзкі дрэў. Гэта карысная расліна ўтрымлівае дубільныя рэчывы, гліказіды, эскулін, фраксін, ціглінавую кіслату, тлустае масла, руцін, вітаміны C, K, B1, B2, карацінаіды, пекцінавыя рэчывы, крухмал і іншыя біялагічна актыўныя рэчывы.

У медыцыне конскі каштан прымяняецца ў выглядзе экстрактаў і адвараў пры гемароі, трамбафлебітах, варыкозным пашырэнні венаў, атэрасклерозе і для прадухілення трамбаўтварэння, іншых захворваннях, узнікаючых пры спазмах вен. Ванны з каштанам памяншаюць запаленчныя працэсы ў мышцах, карысны пры неўралгіях. У аптэках гэты прэпарат мае назву "Эскузан".

У народнай медыцыне адвар і настойку на гарэлцы прымяюць пры захворваннях сэрца, печані, хранічных расстройствах страваварэння, кашлі рознага паходжання і рэўматызме. Настойкай націраюцца пры болях у нагах, рэўматызме.

Для прыгатавання адвару лістоў і пладоў 10 г мелка пакрышанай сыравіны заліваецца 1 шклянкай гарачай вады, кіпіць на "вадзяной бані" 30 хвілін, працэджваецца і даліваецца да зыходнага памеру вадкасці. Прымаць у першыя два дні па 1 сталовай лыжцы 1 раз на дзень, далей - па 1 сталовай лыжцы 2-3 разы на дзень пасля яды. Курс - ад 2 да 8 тыдняў. Лячыцца конскім каштанам пажадана пад наглядам урача.

*І.Магуш*

## Прапануем вашай увазе месцы знаходжання, расклады працы і тэлефоны магазінаў Барысаўскага гархарчгандлю

| № магазіна | Адрас | Тэлефон | Спецыялізацыя | Працуе | Перапынак | Выхадны | Сан.дзень |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | вул.Дзяржынскага, 95 | 2-06-45 | прадукты | 8-20, субота, нядзеля 8-15 | б/п | б/в | 1-шы чацвер |
| 2 | вул.Дымкі,79А | 9-50-15 | прадукты | 9-19, субота 9-18 | 13-15 | нядзеля | 1-шы чацвер |
| 3 | пр.Рэвалюцыі,31 | 3-53-10 | хлеб | 8-21, субота, нядзеля 8-20 | б/п | б/в | 1-шая пятніца |
| 8 | вул.50 год БССР,15 | 5-25-45 | «Універсам» | 8-20, субота, нядзеля 9-18 | б/п | б/в | 2-ая серада |
| 9 | вул.Н.Нёман,78 | 2-06-18 | прадукты | 10-19, пятніца 10-18 | 14-15 | субота | 2-ая серада |
| 13 | вул.Арджанікідзе,59 | 5-05-22 | прадукты | 9-21 | 14-15 | б/в | 1-шы панядзелак |
| 14 | вул.Пыжыкава,17А | 2-07-54 | прадукты | 10-19, нядзеля 10-18 | 14-15 | панядзелак | 3-ая пятніца |
| 15 | вул.Меліяратыўная,15 | 2-26-56 | «Універсам» | 8-20 | 15-16 | б/в | 1-ая серада |
| 18 | б.Грэчка,4 | 5-45-10 | прадукты | 8-21 | 13-14 | б/в | 1-шы чацвер |
| 19 | вул.Чалоўскай,2 | 3-36-45 | прадукты | 8-20..30, субота, нядзеля 9-19 | 14-14.30 | б/в | 3-ая серада |
| 20 | вул.Галіцкага,21 | 5-29-79 | «Універсам» | 9-22, субота, нядзеля 9-21 | 14-15 | б/в | 2-гі чацвер |
| 22 | вул.Чапаева,34 | 3-29-79 | прадукты | 8-20 | 14-15 | б/в | 1-шы чацвер |
| 23 | вул.Горкага,113А | 3-00-77 | прадукты | 8-20..30 | б/п | нядзеля | 2-ая серада |
| 24 | вул.Сенная ,40А | - | прадукты | 10-19, нядзеля 10-18 | 14-15 | субота | 1-шы панядзелак |
| 25 | вул.Працы,18 | 3-25-20 | гастраном | 8-21 | 14-15 | б/в | 3-ая серада |
| 26 | вул.Чалоўскай,37 | 5-48-97 | прадукты | 8-20 | 14-15 | б/в | 1-шы аўторак |
| 28 | вул.Жуковіча,3 | 2-19-78 | прадукты | 10-19, субота 10-18 | 13-14 | нядзеля | 3-ці чацвер |
| 30 | вул.Пірагова,65А | 2-04-65 | прадукты | 8-20 | 14-15 | б/в | 2-ая пятніца |
| 31 | вул.Чырвоназнамённая,58 | 3-56-32 | «Заказы» | 10-19, субота 10-18 | 14-15 | нядзеля | 1-шы панядзелак |
| 34 | пр.Рэвалюцыі,46 | 3-26-55 | прадукты | кругласутачна | б/п | б/в | 2-ая пятніца |
| 37 | вул.Горкага,75 | 3-51-56 | прадукты | 8-20 | 14-15 | б/в | 1-ая пятніца |
| 38 | вул.Індустрыяльная,37А | 3-98-91 | прадукты | 10-19, субота 10-18 | 14-15 | нядзеля | 2-гі аўторак |
| 39 | вул.Завадская,119 | 3-31-07 | прадукты | 8-20 | 13.30-14.30 | б/в | 1-шы чацвер |
| 41 | пр.Рэвалюцыі,30 | 3-43-45 | «Заказы» | 10-19, субота 10-18 | 14.30-15.30 | нядзеля | 2-гі аўторак |
| 43 | вул.III Інтэрнацыянала,66 | 2-05-42 | прадукты | 10-19, нядзеля 10-18 | 14-15 | панядзелак | 1-ая серада |
| 45 | вул.Чапаева,37 | 3-26-59 | «Мяса-малако» | 9-19, субота 9-18 | 13-14 | нядзеля | 2-гі аўторак |
| 46 | вулЛенінская,102А | 3-21-49 | прадукты | 10-19, нядзеля 10-18 | 14-15 | панядзелак | 1-ая серада |
| 48 | вул.30 год ВЛКСМ,31 | 3-52-56 | прадукты | 9-18, субота 9-17 | 14-15 | нядзеля | 1-шы чацвер |
| 49 | вул.Ленінская,154 | 3-43-74 | прадукты | 8-20 | 15-16 | б/в | 3-ая серада |
| 50 | вул.Завадская,45 | 3-37-66 | прадукты | 10-19, субота 10-18 | 14-15 | нядзеля | 3-ці аўторак |
| 51 | вул.Дымкі,25 | 3-52-41 | прадукты | 8.30-21.30 | 15-16 | б/в | 1-шы панядзелак |
| 57 | зав.3-ці Залінейны,9 | 3-31-27 | прадукты | 10-19, субота 10-18 | 14-15 | нядзеля | 2-гі аўторак |
| 58 | вул.Чапаева,28 | 3-36-42 | гастраном | 9-22, субота 9-21 | 15-16 | б/в | 1-шы аўторак |
| 59 | пр.Рэвалюцыі,27 | 3-41-54 | «Мяса-малако» | 8-20 | 14-15 | б/в | 2-ая серада |
| 60 | вул.Чапаева,37 | 3-53-33 | прадукты | 8-20 | 14-15 | б/в | 1-ая серада |
| 61 | вул.Чапаева,50 | 3-24-32 | «Заказы» | 10-19, субота 10-18 | 14-15 | панядзелак, нядзеля | 2-гі аўторак |
| 62 | вул.Н.Неман,1 | 2-06-26 | прадукты | 8-21 | 14-15 | б/в | 1-шы аўторак |

# Парады ад Наталлі

### Рэдзька з гусіным тлушчам

Рэдзьку абабраць, прамыць у халоднай вадзе, нацерці на буйной тарцы. Абабраную цыбулю нашынкаваць, змяшаць з падрыхтаванай рэдзькай, да ўсяго гэтага дадаць растоплены гусіны тлушч і пасаліць па густу. 2-3 рэдзькі, 1 цыбуліна, 1 сталовая лыжка гусінага тлушчу, соль

### Карп з капустай (фірменнае блюда дацкіх станічнікаў)

У ачышчаным ад лускі і вымытым карпе зрабіць разрэз на спінцы даўжынёй 8-12 см і праз яго дастаць жабры. Начыніць карпа кіслай тушанай капустай, пакласці на бляху, наліць крыху алею і паставіць у духоўку. Праз 10-15 хвілін перавярнуць і пячы яшчэ столькі ж.

Для фаршу капусту рыхтуюць наступным чынам. З капусты зліць расол, пакласці у каструлю з 1-2 нашаткаванымі цыбулінамі, уліць 2-3 сталовыя лыжкі алею. Тушыць на малым агні. На аднаго карпа 200 -300 г кіслай капусты, 1-2 цыбуліны, 4-5 сталовых лыжак алею, крыху молатага перцу. Падаваць пасьзаным на порцыі з хрэнам.

### Фаршыраваная капуста

Свежую капусту ачысціце ад брудных лістоў, выражце храпку і ў падсоленай вадзе зварыце да гатоўнасці. Адзяліце лісце і акуратна адбіце.

Прыгатуйце фарш. Для гэтага моркву, пятрушку, рэпу нарэжце саломкай і крыху патушыце ў невялікай колькасці вады. Цыбулю падсмажце. Змяшайце ўсю гэтую гародніну, запраўце соллю, перцам. Дадайце пасечаныя яйкі, смажаныя грыбы, дробна пасечаны кроп ці пятрушку.

У падрыхтаванае капуснае лісце загарніце фарш. Абгарніце ў муцэ, змачыце ў збітым яйку, абкачайце ў патоўчаных сухарах. Падсмажце ў вялікай колькасці тлушчу, пакуль на паверхні не паявіцца румяная скарынка. Патрымайце 15-20 хвілін у духоўцы і падайце са смятанным соусам.

На 1 кг капусты - 200 г. морквы, 100 г. рэпы, 1-2 цыбуліны, корань пятрушкі, 100 г. тлушчу, 2 яйкі, некалькі грыбоў, 2-3 сталовых лыжкі смятаны, 2 сталовых лыжкі мукі, кроп.

### Мядовы чорны хлеб

Расцерці злёгку шклянку цукру з 3 яйкамі, дадаць шклянку тлушчу, калі ёсцьшклянку патоўчаных арэхаў, сталовую лыжку мёду, па чайнай лыжцы гваздзікі і пітной соды, сталовую лыжку воцату і такую ж колькасць мукі, каб атрымалася мяккае цеста. Цеста разрэзаць на 4 кавалкі, кожны з якіх скачаць у выглядзе шара, затым рукамі сфармаваць буханкі, пакласці іх на бляху, змазаную тлушчам, і выпякаць ва ўмерана гарачай духоўцы.

*Прыемнага апетыту!*

# Крыжаванка

***складзена па матэрыялах гэтага нумара***

**Па гарызанталі:** 1 - футбольны клуб; 2 - вёска на Барысаўшчыне; 3 - вёска на Барысаўшчыне; 4 - вуліца ў Барысаве ў XVIII стагоддзі; 5 - англійскі гісторык, які наведаў Барысаў у 1784 годзе; 6 - вуліца ў Барысаве ў XVIII стагоддзі; 7 - вуліца ў Барысаве; 8 - вёска на Барысаўшчыне; 9 - вёска на Барысаўшчыне; 10 - вуліца ў Барысаве ў XVIII стагоддзі; 11 - базар у Барысаве; 12 - вёска на Барысаўшчыне; 13 - вуліца ў Барысаве ў XVIII стагоддзі; 14 - футбольная каманда; 15 - вёска на Барысаўшчыне.



Малюнак Л.Гадуна




**Адказы на крыжаванку,** што змешчана ў "ГБ" № 9(18): 1 - Негатыў; 2 - Бродаўка; 3 - Ідыля; 4 - Разгром; 5 - Замошша; 6 - Барань; 7 - Гайна; 8 - Шматгалоссе; 9 - Чарневічы; 10 - Забашавічы; 11 - Шабынькі; 12 - Крушына.

# Лічбавая крыжаванка

Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**17:** 71276895012421799, 42387543219751728.
**15:** 238965487543210, 421987584279654.
**13:** 1738947374254, 2754374598945, 4865452232109, 9387538298642.
**11:** 26275543869, 27545433862, 38757549865, 62369929721, 88955933256, 96752218634.
**9:** 234848867, 936765873.
**7:** 3948883, 4385718, 4386649, 5493817, 7487486, 843217.
**6:** 165559, 448538, 463787, 896233.
**5:** 27696, 29652, 32375, 34656, 43596, 49479, 54618, 57175, 82302, 95968, 96362, 98976.
**4:** 1849, 7041, 7847, 8731.
**3:** 379, 554, 927, 953.

***Адказ на крыжаванку, надрукаваную ў мінулым нумары:***





# Ці ведаеце вы, што...

Бярэзінскі запаведнік, частка якога знаходзіцца на тэрыторыі Барысаўскага раёна, заснаваны ў 1925 годзе. Яго плошча складае 90628 га.

Аб запаведніку надрукавана больш за 1500 кніг, навуковых манаграфій і артыкулаў.

У 1983 годзе на базе Бярэзінскага запаведніка быў праведзены І Міжнародны кангрэс па біясферных запаведніках. У ім прынялі ўдзел спецыялісты з сарака васьмі краін свету.

У 1992 годзе запаведнік быў прыняты ў сябры Федэрацыі прыродных і нацыянальных паркаў Еўропы.

У 1993 годзе Рада Еўропы ўключыла Бярэзінскі запаведнік у сетку біягенетычных запаведнікаў.

У 1995 годзе Рада Еўропы ўзнагародзіла Бярэзінскі запаведнік дыпломам за паспяховую работу па захаванню прыродных комплексаў і біялагічнай разнастайнасці.

Лясы займаюць 83,3% плошчы запаведніка, балоты - амаль 60%.

На тэрыторыі запаведніка маецца 7 азёр, працякае 69 рэк і рэчак (даўжынёю болей аднаго кіламетра) агульнай працягласцю 315 кіламетраў.

На тэрыторыі запаведніка выяўлена 789 відаў сасудзістых раслін, 216 відаў мхападобных, 317 таксонаў дзіатомавых водарасляў, 463 віды грыбоў, 238 відаў лішайнікаў і інш.

На тэрыторыі запаведніка жыве 320 відаў пазваночных жывёлін. Сярод іх птушак 220 відаў, млекакормячых 51 від, рыб 34 віды, амфібій 10 відаў, рэптылій 5 відаў і галавахордых 1 від.

Сярод млекакормячых у Бярэзінскім запаведніку жывуць 19 відаў грызуноў, 12 відаў драпежнікаў, 6 відаў насякомаядных, 5 відаў рукакрылых, 2 віды зайцападобных і інш.

# Японская крыжаванка

Вашай увазе прапануецца японская крыжаванка. У ёй неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Яна атрымліваецца на падставе аналізу лічбаў, што прастаўлены злева ад радкоў і над слупкамі. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Напрыклад, лічбы 1, 4 і 2 азначаюць, што ў гэтым радку ёсць тры групы чорных клетак, якія складаюцца: першая - з адной, другая - з чатырох, трэцяя - з двух чорных клетак. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля. Паспрабуйце высветліць, якая выява зашыфравана ў наступнай крыжаванцы.

***Адказ на крыжаванку, надрукаваную ў мінулым нумары:***





*Газета «Гоман Барысаўшчыны» запрашае да супрацоўніцтва ўсіх, каму неабыякава мінулае, сучаснасць і будучыня нашага краю*

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 2000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 19.00 21.10.2000 г.
Замова №6071
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33
e-miel: gomanbar@irex.minsk.by

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*